4 кастрычніка 1994 г.
Аўторак
№ 107 (13824)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:

□ *Эканоміка.* Супрацьстаянне па–кобрынску. 2

□ *100 артыкулаў з гісторыі Беларусі.* Каралеўская змова. 2-3

□ *"9 x 12".* Наш госць – Вадзім КАЗАЧЭНКА. 3

□ *Цёмны бок Месяца.* З гісторыі НЛА. 4

*Малюе Віктар ДУБОВІК*






Фотаэцюд А.ГУРЫНОВІЧА.

## Кур'ер "ЧЗ"



У Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь 1 кастрычніка прынялі прысягу 576 першакурснікаў. З гэтага года тут адкрыты новы факультэт — следча-экспертны. Акрамя спецыялістаў для органаў Міністэрства ўнутраных спраў, у Акадэміі цяпер атрымліваюць адукацыю таксама 28 чалавек — будучых юрыстаў для Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА.

### Пікеты ад БНФ

*"Дайце слова ў эфіры апазіцыі БНФ!", "Дзе паабяцаная свабода ў прэсе?" Пікеты з гэтымі і іншымі патрабаваннямі выставілі 30 верасня прадстаўнікі Беларускага народнага фронту каля Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі.*

### Яшчэ адна ахвяра СНІДу

*У Брэсцкім раёне выяўлены першы хворы на СНІД.*

Дваццацішасцігадовы Н. адчуў недамаганне і здаў кроў на аналіз. Заключэнне медыкаў было сумным: сіндром набытага імунадэфіцыту. Сам хворы адпраўлены ў Мінск, а ўрачы цяпер з апаскай чакаюць, калі да іх прыйдуць партнёршы (або партнёры) асуджанага.

БЕЛІНФАРМ.

### Сустрэча ў Саюзе моладзі

*У ЦК Саюза моладзі Беларусі прайшла сустрэча першых сакратароў абласных камітэтаў. На ёй было вырашана 15—20 кастрычніка правесці чарговы Пленум, які разгледзіць пытанне аб сітуацыі ў Саюзе моладзі.*

Паводле слоў першага сакратара Сяргея Дароніна, яе можна расцэньваць як нармальную. Маладыя людзі цікавяцца гэтай арганізацыяй, што налічвае сёння 123 тысячы членаў. Але склалася дзіўная сітуацыя з узносамі. Пытанне аб іх выплаце было аддадзена на вырашэнне першасным арганізацыям. І многія пастанавілі: не плаціць. На думку Сяргея Дароніна, членства ў Саюзе прадугледжвае і рэгулярную выплату ўзносаў. Тым больш, што цяпер у гэтай арганізацыі будзе больш жорсткая сістэма пастаноўкі і зняцця з уліку. Першы сакратар не выключае, што пасля такіх мер колькасць членаў можа змен-шыцца. На пленуме будзе разглядацца і пытанне аб аднаўленні пасады вызваленага сакратара ў буйных першасных арганізацыях.

Святлана КУЛІКОВА.

### Прадпрымальнікі рыхтуюцца да выбараў

*З ідэяй арганізаваць курсы для прэтэндэнтаў у дэпутаты перад маючымі адбыцца выбарамі выступіў беларускі Саюз прадпрымальнікаў і арандатараў. Яны пачынаюцца з кастрычніка і будуць праводзіцца ў кадравым цэнтры Саюза — Акадэміі прадпрымальніцтва і сацыяноміі.*

Яе "вучнямі" стануць не толькі бізнесмены, а і вылучэнцы ад прадпрыемстваў, партый і грамадскіх аб'яднанняў. "Рэфармаванне эканомікі, дэмакратызацыя грамадства і пабудова прававой, сацыяльнай дзяржавы" — вакол гэтага агульнага палажэння супрацоўнікі акадэміі і спадзяюцца аб'яднаць праграмы прадстаўнікоў разнастайных палітычных поглядаў. Прэтэндэнты ў дэпутаты будуць дэталёва разбіраць выбарчую сістэму Беларусі і яе геапалітычнае становішча, вучыцца прафесійна арганізоўваць палітычную кампанію, наладжваць работу са сродкамі масавай інфармацыі і з даверанымі асобамі. Пэўна ж, карысным "урокам" для будучых прадстаўнікоў палітычнай эліты паслужыць і знаёмства з этыкетам: як весці прыёмы, прэс-канферэнцыі, як "этычна" паводзіць сябе на пасяджэннях. Для заняткаў з навучэнцамі акадэмія сабрала палітолагаў, юрыстаў, псіхолагаў, спецыялістаў па пытаннях бяспекі. Трэба адзначыць таксама, што пасля больш як 100-гадзінных курсаў выпускнікі могуць разлічваць на кансультацыі сваіх выкладчыкаў і пад час выбарчай кампаніі.

### Беспрацоўе не пагражае рабочым

*Паводле звестак, якія маюцца ў распараджэнні Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва, за 8 месяцаў гэтага года агульная колькасць беспрацоўных на Беларусі склала 97 403 чалавекі.*

Самая вялікая колькасць беспрацоўных зарэгістравана па Мінскай вобласці — 18 414 чалавек. Патрэбнасць жа ў кадрах па рэспубліцы на 1.09.94 г. склала 25 237 чалавек. З іх амаль усе (22 253) запрашаюцца на працу з рабочымі спецыяльнасцямі.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Аб чым маўчыць рыба?

*Рыба, як вядома, маўчыць. Калі б яна ўмела гаварыць, абавязкова распавяла б, што на Віцебшчыне толькі за восем апошніх месяцаў ускрыта рыбааховай вобласці 2,5 тысячы парушэнняў правіл рыбалоўства і санітарнага ўтрымання водных басейнаў.*

Ловяць рыбу сеткамі, браднікамі, глушаць выбуховымі рэчывамі, знішчаюць агнястрэльнай зброяй, электравудачкамі. Відаць, да браканьераў мы занадта літасныя, і штрафы іх не палохаюць. Пакуль заклікаем да сумлення, то, як у Крылова, а Васька слухае, дый ловіць...

### Кіношнікі ўз'ядналіся з Расіяй?

*Лепельская кінафікацыя, па ўсім відаць, не вытрымала чакаць абяцанай рублёвай зоны і першай датэрмінова... ўз'ядналася з Расіяй. Нездарма на вуліцах горада, як у старыя добрыя часіны, зноўку з'явіліся рускамоўныя афішы.*

Вяртанне "на кругі своя", аднак, не выклікала ажыятажу ля білетных касаў, і фільмы па-ранейшаму круцяць у паўпустых залах.

Уладзімір МІХНО.

### Сапраўдныя зоркі не гаснуць

*Кароткі век быў наканаваны Ігару Талькову. Трагічная выпадковасць абарвала жыццё таленавітага спевака, кампазітара, паэта, акцёра. Але нават за кароткі тэрмін, адпушчаны яму лёсам на гэтай зямлі, ён змог зрабіць так шмат, што святло яго душы яшчэ доўга будзе пранікаць у сэрцы людзей. І датычыць гэта не толькі паклоннікаў артыста, але і яго калег па эстраднаму цэху. І тых і другіх аб'яднаў канцэрт памяці Ігара Талькова, арганізаваны ў апошні дзень верасня ў Цэнтральным доме афіцэраў.*

Яго ўдзельнікамі сталі Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Аляксандр Саладуха, студыя "Сябры" і шэраг іншых груп і выканаўцаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Курсы валют на 3 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4290 | 4425 | 2760 | 2851 |
| "Прыор" | 4320 | 4370 | 2780 | 2820 |
| "Пошук" | 4320 | 4460 | 2800 | 2870 |

## ЗДАРЭННІ І КУР'ЁЗЫ

### РАЗБАГАЦЕЎ НА...АГАРОДЖЫ

*"Як добра быць генералам!" — усклікае лірычны герой папулярнай яшчэ зусім нядаўна эстраднай песні. Але часам нядрэнна быць і электразваршчыкам. Асабліва, калі выконваць "левыя" заказы.*

Звяртаецца, скажам, да В., работніка гальванічнага цэха Дзяржынскага доследна-механічнага завода, нехта Х.

— Добры чалавек, будзь сябрам! Чуў я, што ў вас на прадпрыемстве агароджу для магілак можна зрабіць? Грошай не пашкадую...

Ну хто ж адмовіцца ад грошай, якія самі плывуць у рукі? В. не стаў нават абцяжарваць сябе работай, а дачакаўшыся зручнага моманту, выкраў з цэха ўжо гатовую агароджу, выраблену з алюмінію. Аднёс яе да плоту і схаваў.

А вечарам туды падкаціла машына, за рулём якой сядзеў Х.

— Атрымлівай тавар! — горда сказаў электразваршчык.

Аператыўныя работнікі райаддзела міліцыі, да якіх звярнуліся за дапамогай завадчане, хутка раскруцілі клубочак. І прыйшлося В. трымаць адказ. А ён жа майстар сваёй справы якіх пашукаць. Шкада толькі, што рукі залатыя накіраваў не на добрую справу...

Аляксандр ХАРКЕВІЧ.

### ВЯСЕЛЛЕ З ПЕРАКЛАДЧЫКАМ

*Кажуць, трэці лішні. Калі вянчаліся ў Нінбургу мясцовы жыхар Аксель Нюрге з віцяблянкай Марынай Меранковай, трэцім, зусім, зусім не лішнім, быў перакладчык. Нявеста, як паведаміла нінбургская газета "Дзі Харке", пад час цырымоніі неаднаразова звярталася да яго.*

А пазнаёміліся маладыя, калі Марына прыязджала ў Нінбург на гастролі з Віцебскім камерным хорам. Дарэчы, сведкам на вяселлі быў кіраўнік нінбургскага таварыства па сувязях з замежжам Вольф Гангкопф.

Уладзімір МІХНО.

### ПАДЛЯЧЫЛА

*Лекавая працэдура стала прычынай смерці маладзечанскага пенсіянера П.*

Жонка хворага нацерла яго спіртам, а пенсіянер у гэты час закурыў і ў адзін момант ператварыўся ў жывы факел.

### РАГАТЫ ДЫВЕРСАНТ

*Як дзяржаўную мяжу, ахоўвае свой садовы ўчастак маладзечанец М. Па перыметру агарода ён працягнуў сігналізацыю, якая ў час паведамляе аб набліжэнні парушальніка.*

Вялікі перапалох нарабіла тут каза, якая парвала праводку, каб пакаштаваць у агародзе капусты. Убачыўшы акамулятар, які загарэўся, "пагранічнік" выскачыў на вуліцу, каб злавіць дыверсанта, але перапалоханая жывёліна ўцякла ў кусты.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# Чаго ж нам не хапае?

*Адбылася прэс–канферэнцыя, якую правёў міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, генерал–маёр унутранай службы Юрый Захарэнка. Аналізуючы крымінагенную сітуацыю ў краіне, ён не ўтойваючы падкрэсліў, што становішча спраў застаецца стабільна трывожным, хоць работнікамі міліцыі і прымаюцца тэрміновыя меры па выкрыццю бандыцкіх груп, утаймаванню вала злачыннасці.*

Размова ішла аб напрамках работы, канкрэтных справах, прыводзіліся жахлівыя лічбы. Так, за восем месяцаў бягучага года загінула 7603 чалавекі, 60 тысяч суграмадзян утрымліваецца на сёння ў спецустановах і следчых ізалятарах. Характарызуючы прычынныя матывы злачынстваў міністр, у прыватнасці, канстатаваў, што семдзесят працэнтаў іх, звязаны з пасягненнямі на ўласную, дзяржаўную і кааператыўную маёмасць. Карацей кажучы, маюць карыслівае адценне. У тым ліку — 780 разбойных нападаў, учыненых арганізаванымі бандамі на дарогах, звязаных з абрабаваннем кватэр, камерцыйных устаноў. А ўсяго на тэрыторыі рэспублікі з пачатку года на рахунку арганізаваных груп 11 тысяч учыненых злачынстваў.

Вось яны жахлівыя рэаліі жыцця. Грамадства, як бачна, эканамічна і сацыяльна хворае. А таму няма ніякага сакрэту, што агульную карціну стану правапарадку ў рэспубліцы псуе акрамя ўсяго рост колькасці крымінальных злачынстваў, здзейсненых моладдзю. І тут лічба жахлівая. У прыватнасці, з пачатку года маладзёнамі ўчынена шэсць тысяч крымінальных ліхадзействаў.

Не лакіруючы сапраўднасць становішча, генерал Юрый Захарэнка падкрэсліў, што засмучае і факт павелічэння на 24 працэнты рэцыдыўнай злачыннасці, дзе, літаральна кожнае пятае забойства, кожнае трэцяе згвалтаванне, кожны другі грабёж.

На жаль, не перавяліся здраднікі-злачынцы і ў радах міліцыі, дзе супраць 44 супрацоўнікаў органаў унутраных спраў узбуджаны крымінальныя справы.

Прыведзеныя на прэс-канферэнцыі лічбы і факты сведчаць аб заганнасці самой цяперашняй дзяржаўнай сістэмы. Здавалася б, узялі курс на стварэнне прававой дзяржавы, але да гэтага часу не створана прынцыпова новая сістэма абароны інтарэсаў грамадзян. Не прыняты шэраг заканадаўчых актаў, у тым ліку закон аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Разам з тым, нават тыя суверэнныя сістэмы прававой абароны грамадзян, якія існуюць на сёння, выраслі, як сведчаць шматлікія аргументы, з ранейшых агульных законаў, што забяспечвалі рэальныя правы чалавека толькі на словах.

Між іншым, у краінах, дзе здольны пахваліцца сапраўды развітай прававой базай, заўсёды адшукаецца канкрэтны чалавек, адказны, напрыклад, за выдачу мільярдных банкаўскіх крэдытаў, асобам з цёмным мінулым, за "прыхватызацыю" народнага дабра, за разбазарванне каляровых металаў ці будаўнічых матэрыялаў. Чаго ж нам не хапае? У рэшце рэшт, можна штодзень спасылацца на агульны развал эканомікі і расцягваць па кутках тое, што належыць большасці народа, абяцаць, што да вясны ці праз шэсць-восем месяцаў становішча выправіцца і дзерці з простага грамадзяніна апошнія рублі, робячы больш дарагім, напрыклад, праезд на гарадскім транспарце, а пенсіянераў, пазбаўляючы апошняй надзеі. Дык вось, на маю думку, каб абараніць чалавека ад злачынцы ў кожным канкрэтным выпадку, зусім не абавязкова чакаць паляпшэння стану спраў у эканоміцы. Дастаткова стварыць надзейную прававую базу. А тады ўжо думаць аб рашэнні грандыёзных эканамічных праблем. Бо ахапіць адразу неахопнае — цяжка.

Вось і на апошняй прэс-канферэнцыі ішла гутарка аб злачыннасці наогул, асноўных накірунках работы. Таму ў заключэнне міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрый Захарэнка выказаў слушную, на мой погляд, прапанову, праводзіць у далейшым падобныя прэс-канферэнцыі па канкрэтных напрамках дзейнасці міліцыі.

Адказваючы на пытанні журналістаў, наменікі міністра Юрый Тарабрын, Мікалай Крэчка, начальнік Упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Генадзь Цярэня, начальнік Упраўлення па выпраўленчых справах Леанід Цурко і іншыя спыніліся на сацыяльна-бытавых праблемах дзейнасці падначаленых ім структур і падраздзяленняў органаў унутраных спраў, якія ў большасці выпадкаў не спалучаюцца з інтарэсамі стабілізацыі становішча ў барацьбе са злачыннасцю ў рэспубліцы.

Валянцін БАРЫСЕВІЧ.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску перакладчык Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.

## "Уорлднэт"

### КЛІНТАН ПАДАГУЛЬНЯЕ ...

*Прэзідэнт ЗША Клінтан заявіў у выступленні перад амерыканцамі, што сустрэча на вышэйшым узроўні з Барысам Ельцыным была шматабяцаючай і добразычлівай.*

Абодва прэзідэнты былі аднадушнымі ў пытанні аб палітыцы ў адносінах да Сербіі. Праўда, Клінтан папракнуў Расію ў тым, што яна да гэтага часу прадае зброю Ірану. Прэзідэнт вітаў рэформы, якія праводзіць расійскае кіраўніцтва, і выказаў надзею, што эканамічнае становішча ў Расіі ў хуткім часе стабілізуецца. Таксама амерыканскі ўрад выдзеліў Расіі 250 мільёнаў даляраў.

### ВЫБАРЫ Ў СЛАВАКІІ

*У Славакіі ўпершыню будуць праводзіцца парламенцкія выбары.*

Як вядома, Славакія выйшла з саставу Чэхаславакіі ў 1993 годзе. Цяпер лёс дзяржавы будзе вырашаць 3,5-мільённае насельніцтва. Вядучыя месцы на палітычным небасхіле краіны займаюць сацыял-дэмакратычная партыя і рух "Дэмакратычная Славакія". Карыстаецца папулярнасцю і кансерватыўная радыкальная партыя.

### НА ДЭМАНСТРАЦЫЮ – З ПЕСНЯЙ!

*Незвычайная дэманстрацыя прайшла ў сталіцы Іспаніі Мадрыдзе.*

Амаль усе цэнтральныя вуліцы горада былі запоўнены дэманстрантамі, якія... спявалі і танцавалі. Такім чынам прысутныя выказвалі пратэст супраць падаткаў Сусветнага банка і інфляцыі. Удзельнікі выступлення запатрабавалі таксама зменшыць плату за сацыяльныя паслугі.

### ЧЫГУНАЧНАЯ КАТАСТРОФА

*У Германіі, паблізу Гамбурга, адбылося сутыкненне паяздоў.*

Загінула каля 7 чалавек, 17 атрымалі цяжкія раненні. Прычына аварыі расследуецца.

## "Суперчэннэл"

### УПАРТАЯ ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ

*У Жэневе былі прадоўжаны перамовы па ядзернай бяспецы паміж ЗША і Паўночнай Карэяй.*

Паўночная Карэя па-ранейшаму адмаўляецца ад міжнароднага кантролю за атамнымі станцыямі і вытворчасцю плутонію, які выкарыстоўваецца ў ваенных мэтах.

### КАНТРАБАНДА ПА–ФРАНЦУЗСКУ

*Французская паліцыя затрымала парусную яхту, на якой пры вобыску было канфіскавана 100 кг какаіну.*

Паводле звестак паліцыі, наркотыкі былі дастаўлены на борт у Калумбіі і перапраўляліся ў Вялікабрытанію. Пяць французаў, замешаных у гэтай справе, арыштаваны. Акрамя гэтага, у Марселі затрыманы і адпраўлены ў бальніцы 20 чалавек, якія ўжывалі наркотыкі.

## "Еўраньюс"

### ЗА МОВУ ЗМАГАЮЦЦА І Ў КАБУЛЕ

*У Кабуле была праведзена дэманстрацыя супраць ісламскага фундаменталізму, які панаваў у Афганістане.*

У асноўным у дэманстрацыі прымалі ўдзел алжырцы. Яны патрабавалі прызнання алжырскай мовы і выкладання яе ў школах Афганістана. Усяго ў дэманстрацыі прынялі ўдзел звыш тысячы чалавек.

### БЕРЛІН СВЯТКУЕ...

*У Берліне адбыліся святочныя гулянні, прысвечаныя Дню ўз'яднання Германіі.*

На свяце былі прадстаўлены 16 германскіх зямель, з канцэртамі выступілі 10 найбольш вядомых поп-груп Германіі. Гледачамі і ўдзельнікамі розных атракцыёнаў сталі звыш дзесяці тысяч немцаў. Народныя гулянні адбыліся таксама ў Брэмене і Брандэнбургу.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

БІЗНЕС-КЛАС

## КУРЫНЫЯ ШЫНКІ "ПЛЫВУЦЬ" У РАСІЮ

Амерыка, нарэшце, знайшла, куды збываць лішкі "ежы бадзяг і жабракоў" — курыныя шынкі. Спачатку гэта прадукцыя літаральна задарма аддавалася расійскім прадпрымальнікам. Летам гэтага года амерыканскія фірмы запатрабавалі ад гандлёвай фірмы "Саюзкантракт" і ТД "МЕНАТЭП" павелічэння цэн на 15 працэнтаў. Выйшла кароткая замінка, але шынкі, нават з надбаўкай і ўвядзеннем новых тарыфаў на мытні, па-ранейшаму плывуць у Расію. Сёння Амерыка імпартуе 90 працэнтаў курынага мяса. Расія атрымала 271 тысячу тон шынак на 300 мільёнаў даляраў. Гэта ў 11 разоў больш за мінулагодні ўзровень. Цана за кілаграм ужо падскочыла да 4,5 тысячы. Але і гэта значна танней, чым самая дрэнная вараная каўбаса айчыннай вытворчасці. Свае ж, расійскія, аграрыі вымушаны зводзіць птушку. У выніку ў Маскве сёння ўжо з цяжкасцю можна адшукаць курыныя яйкі, а тым больш саміх курэй.

Ірына АНДРУХОВІЧ.

## ЗГНАІЦЬ, АЛЕ НЕ ЎСТУПІЦЬ ЦАНЫ

Аптовыя базы затрымліваюць паступленне прадуктаў харчавання ў гандлёвую сетку Масквы ў чаканні павышэння цэн на прадукцыю новага ўраджаю. Такім чынам, ствараецца штучны дэфіцыт, у выніку чаго на сельгаспрадукцыю вырастуць цэны. Пакуль мэрыя не прымае мер, таму што ў фарміраванні цэн на прадукты харчавання вялікую ролю адыгрываюць новыя мытныя пошліны, якія ўведзены ўрадам Расіі з 1 ліпеня і толькі пачалі працаваць. На іх і спісваюць падаражанне не толькі імпартных, але і айчынных прадуктаў, якія падганяюць па цэнах да сусветнага ўзроўню.

## ВЫКЛАДЧЫКІ ВУЧАЦЦА ВЫКЛАДАЦЬ

*Мільён экю выдзеліла спецыяльная камісія ЕЭС на акцыю, якую праводзіць Беларуская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў па падрыхтоўцы новых кансультацыйных кадраў у галіне малога і сярэдняга бізнесу.*

Беларуская акадэмія прадпрымальніцтва і сацыяноміі, што працуе ў цесным супрацоўніцтве з Канфедэрацыяй прамыслоўцаў і іншымі эканамічнымі саюзамі, рыхтуе пяцьдзесят выкладчыкаў-кансультантаў. Праграма, па якой будуць рыхтавацца кадры, распрацавана на аснове англійскага вучэбнага курса універсітэцкай школы бізнесу ў Ковентры.

Кантынгент "студэнтаў" склалі спецыялісты ВНУ, кансалтынгавых фірмаў, розных цэнтраў падрыхтоўкі дзелавых людзей, адміністратары з аб'яднанняў наймальнікаў. Праз пяць месяцаў выпускнікі курса разам з замежнымі калегамі пачнуць выкладчыцкую дзейнасць і ўжо ў гэтым годзе самі падрыхтуюць яшчэ 240 прафесіяналаў малога і сярэдняга бізнесу ў некалькіх гарадах рэспублікі.

Вера ГРАКОВІЧ.

ЭКАНОМІКА

# Супрацьстаянне па-кобрынску

□ Павел СІМАНАЎ,"ЧЗ".

*"Урад мае намер ліквідаваць усе перашкоды на шляху хутчэйшай прыватызацыі сферы абслугоўвання і рознічнага гандлю з тым, каб да канца бягучага года прыватызаваць не менш як 50 працэнтаў прадпрыемстваў гэтай сферы эканомікі".*

*З "Заявы аб асноўных накірунках эканамічнай палітыкі на 1994 год" урада Рэспублікі Беларусь.*

*"Немцам нас прадаюць!"— шыпелі ў зале, падаграючы і без таго душную атмасферу. Кобрынская грамадскасць (у асноўным работнікі гандлю) абмяркоўвала праблему малой прыватызацыі ў горадзе. Калі Роберт Саркісавіч Мечташвілі, намеснік старшыні гарвыканкама, паспрабаваў супакоіць людзей, то пачуў у адказ, што, маўляў, няма чаго пад дудку ўсялякіх там "перасяленцаў" танчыць. І гэта — пра чалавека, які аддаў не адзін дзесятак гадоў свайго жыцця беларускай зямлі, кіраваў адным з буйнейшых у рэспубліцы прадпрыемствам...*

А разгарэўся ўвесь сыр-бор з-за звычайнага кобрынскага магазіна — "Галантарэя" № 1. Менавіта са скаргі яго калектыва пачаўся шэраг праверак законнасці прыватызацыі ў горадзе, якая, дарэчы, толькі пачалася: 29 ліпеня гэтага года тут прайшоў першы адкрыты аўкцыён па продажы камунальнай уласнасці гарвыканкама. На ім, у ліку іншых, быў прададзены і магазін № 1. Як гэта ні парадаксальна, літаральна першая ж здзелка паставіла пад сумненне далейшае правядзенне прыватызацыі ў Кобрыне. Чаму? Каб зразумець гэта, неабходна звярнуцца да пачатку гэтай гісторыі.

29 верасня мінулага года ў Брэсце адбыўся першы адкрыты аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці. З тых часоў у рэспубліцы прайшло мноства аўкцыёнаў, якія паказалі, што гэта найбольш эфектыўны спосаб знайсці лепшых гаспадароў для нерэнтабельных прадпрыемстваў. Кобрынскія ўлады, па прыкладу свайго абласнога цэнтра, таксама вырашылі раздзяржавіць гарадскі "сацкультбыт" у асноўным праз продаж на аўкцыёне, што зафіксавана ў "Палажэнні аб прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці г.Кобрына на 1994 год", зацверджаным гарадскім саветам народных дэпутатаў. Тады ж савет дэлегіраваў правы па прыватызацыі выканкаму, што прадугледжана законам. І вось тут позіркі мясцовых улад звярнуліся да гандлёва-вытворчай фірмы "Надзея" (былога гаргандлю), якая аб'ядноўвала аж 27 аб'ектаў гандлю, у тым ліку і магазін № 1. Была створана камісія па прыватызацыі з удзелам кіраўніцтва "Надзеі", якая і вырашыла прадаць іх праз аўкцыён, паколькі рэнтабельнасць фірмы складала толькі 3,12 працэнта, ды і паўпустыя паліцы магазінаў дастаткова яскрава сведчылі аб эфектыўнасці іх работы.

Чаму было вырашана прыватызаваць "Надзею" праз аўкцыён, а не праз акцыяніраванне, тым больш, што з падобнай просьбай у гарсавет звярнуўся працоўны калектыў? Сусветны вопыт сведчыць, што гэты шлях менш эфектыўны для аб'ектаў малой прыватызацыі. На практыцы ў большасці выпадкаў ля руля раздзяржаўленых праз акцыяніраванне малых прадпрыемстваў застаюцца ранейшыя кіраўнікі са старым мысленнем і метадамі работы. Да таго ж, орган прыватызацыі паступіў бы не толькі неразумна, а яшчэ і незаконна, калі б пайшоў на акцыяніраванне "Надзеі", якая займала дамініруючае становішча на рынку Кобрына. З заключэння Брэсцкага абласнога тэрытарыяльнага ўпраўлення па антыманапольнай палітыцы, напрыклад, вынікае, што "прыватызацыя ГВФ "Надзея" шляхам акцыяніравання ўсёй фірмы ў цэлым, г.зн. адзіным комплексам, можа прывесці да абмежавання канкурэнцыі і ўшчамлення інтарэсаў спажыўцоў, а таксама з'яўляецца парушэннем п.17 Пратакола пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25.10.93 № 31, якім забаронена прыватызацыя ў адзіным комплексе аб'яднанняў прадпрыемстваў".

Такім чынам, продаж магазіна № 1 на аўкцыёне фактычна азначаў пачатак канца былога торга, а значыць, пачатак канца яго былой, практычна суцэльнай улады над гарадскім гандлем, дарэчы, азнаменаванай у не такім далёкім мінулым гучнымі скандаламі. Магчыма, менавіта па гэтай прычыне і з'явілася на свет спачатку скарга калектыва магазіна № 1 да народнага дэпутата, а затым ужо калектыўнае пісьмо работнікаў "Надзеі" да самога прэзідэнта. Вырас, як снежны камяк, і паток абвінавачванняў у адрас "рабаўнікоў, якія адбіраюць народнае дабро": ад папрокаў у тым, што калектывы пазбаўляюць іх рабочых месцаў да сумнення ў законнасці ўсяго працэсу прыватызацыі ў горадзе. Тут ужо быў "падняты на сцягі" і факт цалкам законнага продажу на тым жа першым аўкцыёне аб'екта "незавершанкі" нямецкаму капіталісту, які, дарэчы, заплаціў за яго ў 12 (!) разоў даражэй аб'яўленага кошту (глядзі пачатак артыкула).

Натуральна, зразумелая трывога простых работнікаў "Надзеі" за заўтрашні дзень, боязь "аказацца за бортам" рынку. Аднак, ці такая яна ўжо вялікая, каб пераважыць усялякі цвярозы сэнс і наогул адмовіцца ад рэформ і інвестыцый? Тым больш, што ва ўмовах продажу магазінаў ёсць пункт аб абавязковым захаванні за працоўным калектывам рабочых месцаў, ва ўсялякім выпадку, на 2 гады. А далей — рынак ёсць рынак, дзе кожнаму па здольнасцях...

А ў Кобрыне тым часам наступіла зацішша, якое, як вядома, звычайна бывае перад бурай. "Да высвятлення" адкладзена правядзенне наступнага аўкцыёна: "чакаем-с, да першай зоркі нельга!" Чакае, чым адгукнецца для кобрынскіх прыватызатараў рэакцыя прэзідэнта — "зоркай" або "галавой з плячэй" — і нямецкі капіталіст, якому вельмі цяжка растлумачыць, што азначае, напрыклад, "прыпыніць прыватызацыю" або "вярнуць адабранае ў народа". Будзем спадзявацца, што доўгачаканы "прыватызацыйны ўказ" прэзідэнта ўсё ж выкажа "вотум даверу" кобрынскім уладам і дасць "дабро" на далейшае правядзенне прыватызацыі.

РОДНАЕ СЛОВА

Кастрычнік

**1. Субота.**
Міжнародны дзень музыкі.
70 гадоў таму назад (1924) заснавана выдавецтва "Навука і тэхніка".
50 гадоў з дня стварэння (1944) Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра.

**3. Панядзелак.**
75 гадоў з дня нараджэння (1919) Эдуардаса Межэлайціса, літоўскага паэта, народнага паэта Літвы.

**10. Панядзелак.**
105 гадоў з дня нараджэння Міхайлы Драй-Хмары (сапр. М.П.Драй; 1889–1939), украінскага паэта і літаратуразнаўца, перакладчыка твораў М.Багдановіча на ўкраінскую мову.

**11. Аўторак.**
85 гадоў з дня нараджэння З.А.Бандарынай (1909–1959), беларускай пісьменніцы.

**14. Пятніца.**
95 гадоў з дня нараджэння А.А.Бабарэкі (1899–1938), беларускага пісьменніка і крытыка.

**15. Субота.**
150 гадоў з дня нараджэння Фрыдрыха Ніцшэ (1844–1900), нямецкага філосафа, філолага і пісьменніка.
180 гадоў з дня нараджэння М.Ю.Лермантава (1814–1841), рускага паэта.
85 гадоў з дня нараджэння (1909–1942) Сяргея Ракіты (сапр. Законнікаў Сяргей Васільевіч), беларускага паэта.
80 гадоў з дня нараджэння (1914) Лявона Случаніна (сапр. Л.Р.Шпакоўскі), беларускага паэта.

**23. Нядзеля.**
70 гадоў з дня нараджэння (1924) І.Я.Лепешава, беларускага мовазнаўца.

**24. Панядзелак.**
Міжнародны дзень ААН.

**25. Аўторак.**
60 гадоў з дня нараджэння (1934) Карласа Шэрмана, беларускага паэта, перакладчыка.

**28. Пятніца.**
525 гадоў з дня нараджэння Эразма Ратэрдамскага (сапр. Герхард Герхардс; 1469–1536), нідэрландскага асветніка і гуманіста, прадстаўніка Адраджэння, прадвесніка Рэфармацыі.

**29. Субота.**
180 гадоў з дня нараджэння Я.Ф.Галавацкага (1814–1888), украінскага паэта, філолага, фалькларыста, гісторыка, даследчыка ўкраінскіх і беларускіх фальклорна-літаратурных сувязей, гісторыі і этнаграфіі Беларусі.
40 гадоў назад (1954) адкрыты Магілёўскі абласны драматычны тэатр, створаны на базе пераведзенага ў Магілёў Пінскага абласнога драматычнага тэатра.

**30. Нядзеля.**
Дзень палітзняволеных (Дзень памяці ўсіх ахвяр рэпрэсій).
75 гадоў з дня нараджэння (1919) Геворга Эміна (сапр. Мурадзян Карлен Рыгоравіч), армянскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

Каляндар "Родны край"1994 г.
Фота Сяргея БРУШКО.

# Пяю зямлю пад белымі крыламі...

Як сапраўдны гімн беларушчыне, адданасці і павагі да гісторыі свайго народа ўспрынялося гэтымі днямі свята агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельск-Падляскім (Польшча). Некалькі соцень людзей розных пакаленняў сабраліся разам, каб выказаць вялікую падзяку першаму і самаму галоўнаму настаўніку ў жыцці — ліцэю, які ў нялёгкіх абставінах зберагаў спадчыну і так шчыра дзяліўся ёй з усімі, хто прыходзіў у гэты храм навукі на працягу паўстагоддзя.

Амаль тры тысячы чалавек атрымалі адукацыю ў беларускім ліцэі Бельск-Падляскага. Яны раз'ехаліся ў розныя куткі Польшчы, але дагэтуль захоўваюць родную беларускую мову, адзначаюць традыцыйныя беларускія святы, вучаць дзяцей і ўнукаў паважаць сваіх продкаў, іх гісторыю і культуру. Сюды яны прыехалі са спадзяваннямі, што гэтая крыніца ведаў дапаможа яшчэ многім пакаленням беларусаў, якія воляй лёсу апынуліся па-за Бацькаўшчынай.

Вялікае свята ў Бельск-Падляскім пачалося з багаслужэння ў праваслаўнай царкве горада, што, дарэчы, знаходзіцца на вуліцы, якая носіць імя Аляксандра Пушкіна. Вышэйшыя духоўнікі на чале з галавой праваслаўнай царквы Польшчы мітрапалітам Васілём благаславілі ліцэй і яго педагогаў і надалей вучыць будучыя пакаленні беларусаў дабру. Затым шматлікія госці сабраліся ў ліцэі, які ў гэты дзень стаў сапраўдным "залатым" юбілярам. Мноства кветак, што ўвабралі ўсю гаму фарбаў цудоўнай пары "бабінага" лета, шматлікія фотавыставы аб мінулым ліцэя і яго сённяшнім жыцці, спецыяльна надрукаваныя да юбілею кнігі аб гісторыі навучальнай установы — усё сведчыла аб тым, што беларускі ліцэй у Польшчы працуе плённа.

Дарэчы, ужо на працягу года, як ліцэй дзейнічае з новым дакументам — "Статутам школы". Яго вучні карыстаюцца камп'ютэрным кабінетам добра абсталяваным бацькоўскай радай, у якім таксама праводзяцца камп'ютэрныя курсы для жыхароў горада. У ліцэя вельмі высокія паказчыкі: амаль 80 працэнтаў выпускнікоў працягваюць навучанне ў вышэйшых установах Польшчы.

Сярод гасцей урачыстасцей былі афіцыйныя асобы Польшчы. У Бельск-Падляскі прыехаў віцэпрэм'ер Уладзімеж Чымашэвіч, якога вельмі паважаюць тутэйшыя беларусы. Сярод ганаровых гасцей — прадстаўнікі беларускага пасольства на чале з надзвычайным і паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгіем Таразевічам, на свята з Мінска прыехаў міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч.

Міністр адзначыў, што сёння гэтая падзея, магчыма, узварухне і беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне. Тым больш, што кантакты паміж суседнімі краінамі ў апошні час значна пашыраюцца, і людзі могуць наведваць адзін аднаго, знаёміцца, размаўляць, вырашаць нейкія праблемы разам, дапамагаючы адзін аднаму. Дарэчы, Міністэрства культуры і друку прымае ў свяце самы актыўны ўдзел. Да юбілею спадар Бутэвіч прывёз у падарунак ліцэю мемарыяльную дошку аднаму з заснавальнікаў навучальнай установы Яраславу Кастыцэвічу, а таксама бібліятэчку беларускіх выданняў і карцін.

"Усе гэтыя памяткі, — адзначыў міністр, — застануцца тут і будуць нагадваць тутэйшым людзям пра Беларусь, пра тое, што там не забыліся аб беларусах, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны".

Святочная імпрэза працягвалася два дні. Пасля ўрачыстасцей і афіцыйных выступленняў "уладу" ўзялі знакамітыя беларускія артысты. Анатоль Ярмоленка і ансамбль "Сябры" ў гонар ліцэя для ўдзельнікаў і гасцей урачыстасцей далі вялікі канцэрт. Беларуская песня гучала ў гэты дзень, здавалася, па ўсёй Беласточчыне.

Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ.

*Сто артыкулаў —*

# КАРАЛЕЎСКАЯ

□ Мікола КУЗНЯЦОЎ, " ЧЗ "

Чатыры стагоддзі налічвае гэта загадкавая гісторыя, прымушаючы многія пакаленні грамадазнаўцаў скрэшчваць даследчыцкія шпагі ў пошуку ісціны. І іх можна зразумець. Смута, грамадзянская вайна, звязаныя з імі катаклізмы, і сёння пагражаюць народам, асабліва на зломе нашага часу, стукаюцца ў дзверы нацыянальных "кватэр". Дык давайце ж азірнемся ў мінуўшчыну, угледзімся ў незвычайны ранак 29 кастрычніка 1611 г., калі на вуліцах Варшавы ў напрамку да Каралеўскага палаца ў суправаджэнні вершнікаў у бліскучых шлемах, з шаблямі і сцягамі імчаўся картэж карэт, у адной з якіх з разгубленымі, замаркочанымі тварамі сядзелі трое палонных. Найперш прыцягваў увагу шытым залатым убраннем, высокай гарлатнай лісінага футра шапцы знямоглы стары з патухлымі ад унутраных скрух вачамі. Гэта быў цар маскоўскі Васіль Іванавіч Шуйскі. Побач з ім у больш сціплым адзенні, у прадастаўленай каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам III карэце, сядзелі браты цара, князі, ваяводы маскоўскія Дзмітрый і Іван.

Узначальваў незвычайны картэж гетман Станіслаў Жалкеўскі, акружаны бліскучай світай. Шчодра абсыпанае дыяментамі жазло, якое ён трымаў у руцэ, сведчыла пра выдатную перамогу, атрыманую палкаводцам пад Клушыным над рускімі войскамі, галоўным "трафеем" якой быў яшчэ нядаўна магутны расійскі ўладар, а цяпер разгублены і смяротна стомлены Васіль Іванавіч Шуйскі.

Народ, што высыпаў на вуліцы сталіцы, з цікавасцю глядзеў на дзіўны ўезд у Варшаву і не шкадаваў воклічаў у гонар пераможнага гетмана.

Ля каралеўскага палаца карэты спыніліся і Жалкеўскі запрасіў Шуйскіх у тронную залу, дзе іх ужо чакаў разам з вяльможнымі прыдворнымі кароль польскі і шведскі Жыгімонт III. Ён усхвалявана і пільна ўглядаўся ў твары незвычайных сваіх гасцей. Цар магутнай Расіі, прад якой трапяталі ўладары многіх дзяржаў свету, стаяў ля ягонага трона.

Расфранчаны двор патрабаваў, каб Шуйскі аддаў паклон Жыгімонту. Але Васіль, расправіўшы старэчыя плечы, мовіў: "Цар маскоўскі не кланяецца польскім каралям. Лёсамі Божымі я ваш палонны, але ўзяты не вашымі рукамі, а выдадзены вам сваімі ж здраднікамі".

Жыгімонт добра разумеў, што захоп Масквы, Смаленска, нарэшце, дастаўка ў Варшаву самога цара, яшчэ не азначае скарэння Маскоўскага царства. Ён пасяліў незвычайных "гасцей" у старажытным палацы, што ў 130 вярстах ад Варшавы, пад наглядам каралеўскай гвардыі.

Швед па паходжанню, чужы палякам, выпадковы на польскім троне, на які ўзлез толькі дзякуючы раз'яднанасці шляхты, яе інтрыгам і прадажнасці ў імя сваіх хцівых інтарэсаў, Жыгімонт добра разумеў становішча былога рускага цара. Кароль ведаў, што ягоны трон у Польшчы стаіць на хісткім пастаменце. Карцела жаданне Жыгімонту сесці на маскоўскі трон, аб'яднаўшы Польшчу, Вялікае княства Літоўскае і Расійскае гаспадарства. Каралеўскім памкненням адпавядала і гэтая груба задуманая гісторыя...

...Іван Васілевіч Грозны аддаў богу душу. Здольнага кіраваць агромністым царствам нашчадка цар-распуснік не меў. Рэальная ўлада сканцэнтравалася ў руках хітрага і каварнага баярына Барыса Гадунова. Фактычны кіраўнік Маскоўскай дзяржавы зрабіў усё, каб наладзіць пераход кароны ў ягоныя рукі. Такая перашкода, як царэвіч Дзмітрый, малодшы сын Івана, перастала існаваць, калі дзевяцігадовы хлапчук у час прыпадку эпілепсіі натыркнуўся на заціснуты ў руцэ сцізорык смяротна параніўшы сябе. Ведаючы, у што могуць ператварыць баяры гэтую бяду, Гадуноў паслаў даследаваць здарэнне вернага паслугача, князя Васіля Іванавіча Шуйскага, які пацвердзіў самагубства царэвіча і пахаваў Дзмітрыя ў мясцовай царкве Багародзіцы. Першыя гады царавання новага ўладара былі спакойнымі. Але турбуючыся пра ўмацаванне сваёй улады, Гадуноў у той жа час непакоіўся. Раманавы, Шуйскія, Мсціслаўскія, Варатынскія апаміталіся ад роспачы і пачалі ганьбіць неспадзяванага цара, падбухторваць супраць яго просты люд.

Ускіраваныя князямі і баярамі сяляне, казакі і рамеснікі аб'ядналіся ў магутную паўстанскую армію і пайшлі паходам на Маскву супраць "забойцы царэвіча Дзмітрыя" Гадунова. Паўстанцаў акрыляла вестка, што царэвіч не забіты, цудам выратаваўся, акрыяў і ўзмужнеў у Польшчы і неўзабаве прывядзе ім на дапамогу вялікае войска. Выканаўцу ролі царэвіча Дзмітрыя баяры і паны знайшлі сярод манастырскай брацііі. Ім стаў Грышка Атрэп'еў, продкі якога паходзілі з тагачаснай Літвы, як тады называлі Беларусь. Бадзяючыся па манастырах, ён спасціг усю хіжасць баярства, з манастырскіх кніг даведаўся пра складаныя інтрыгі вакол улады і прастола маскоўскіх князёў і цароў.

Ніякаваты з твару, Грышка меў прыгожы почырк, дзякуючы чаму ўцёрся ў давер нават патрыярху Іову, быў даволі падобны на малодшага сына цара Івана.

Выгнаны з манастыра, ці расстрыжаны за сваю нецаркоўную хіжасць і п'янства, Грышка зрабіўся цацкай у спрактыкаваных палітычных гульнях польскіх і маскоўскіх змоўцаў.

Упэўніўшыся, што той даволі паспеў у сваім "плутовстве" і падрыхтаваны для прызначанай яму ролі, настаяцель Чарнігаўскага ў Кіеве манастыра накіраваў расстрыгу да кіеўскага ў той час ваяводы Канстанціна Астрожскага. Той прыгрэў бадзягу. Праз пэўны час Грышка, скінуўшы сутану, прыблукаў да запарожцаў, авалодаў ратнай справай, пасля трапіў да Адама Вішнявецкага ў ягоны маёнтак у Брагіне. Тут ён упершыню прызнаўся старому і даверліваму князю аб сваім "царскім" паходжанні, паказаўшы дзеля даверу залаты з каштоўнымі камянямі крыж. Князь акружыў "царэвіча" пашанай і рабскай пакорнасцю слуг.

Праз колькі часу Грышка трапіў у Вялікае княства Літоўскае да ваяводы Сандамірскага Юрыя Мнішака. Той адразу ўцяміў, што на гэтым дурні можна добра пагрэць рукі. Таму прыняў госця як сапраўднага царэвіча Дзмітрыя, незаконна пазбаўленага бацькавага трона. Абяцаў падтрымку караля ў вяртанні прастола, калі сапраўдны нашчадак Івана Васілевіча ва ўсім даверыцца яму і іншым сваім дабрадзеям. Спакушаў не толькі золатам, але і сваёй прыгожай дачкой Марынай, якую тут жа навязаў будучаму зяцю і ўладару зямлі Маскоўскай.

Не шкадавалі абяцанняў ваяводы Адам Вішнявецкі і вялікі канцлер Літоўскі Леў Сапега. З апошнім Грышка аднойчы нават пабываў у Маскве, калі той быў накіраваны ў Масковію каралём Жыгімонтам III ў якасці пасла да цара Барыса. Ідэя выкарыстання манастырскага блазана ў мэтах захопу Маскоўскага царства так прывабіла іх, што яны паспяшаліся як найхутчэй далажыць аб ёй каралю.

Каралеўскі двор наладзіў "богам зберажонаму царэвічу" адпаведны пышны прыём.

Жыгімонт дазволіў самазванцу набіраць войска, каб дапамагчы "Дзмітрыю" вярнуць "бацькаву" спадчыну.

Каб заручыцца падтрымкай каталіцкай царквы, Грышка напісаў папу рымскаму Кліменту VIII пісьмо. Яно захавалася ў архівах Ватыкана. З яго вынікае, што аўтар быў не вельмі вялікі граматэй, што пісьмо напісана вялікаросам, які дрэнна валодаў польскай мовай. Почырк быў прыгожы і меў асаблівасці, уласцівыя пісьму маскоўскіх канцылярыстаў.

"Вестку" аб выратаванні "царэвіча" Дзмітрыя паслугачы польскага караля раструбілі на ўвесь свет.

І ўсё ж многія ў Рэчы Паспалітай не былі ў захапленні ад задумы. Яны, не раілі каралю ўблытвацца ў гэтую брудную справу, "каб ад яе не пацярпелі Карона і Літва", але той не пагадзіўся з імі. Жаданне авалодаць маскоўскім тронам, разам з Расіяй зламаць шведаў, перамагчы турэцкага султана, разграміць крымчакоў асляпілі Жыгімонта.

Станоўча рэагаваў на планы Жыгімонта папа рымскі Клімент VIII, спадзеючыся скасаваць у Масковіі праваслаўе і ўсталяваць каталіцызм.

Набраўшы пераважна ў Беларусі 12-тысячнае войска, Ілжэдзмітрый злучыўся з данскімі казакамі і пачаў браць горад за горадам.

Гадуноў, даведаўшыся пра самазванства, устрывожыўся не на жарт. Адам Вішнявецкі зрабіў усё належнае, каб не даць Гадунову паспытаць на Грышку свае атрутныя сродкі. Ён пераправіў "царэвіча" да пары да часу з Вялікага княства Літоўскага ўглыб Вялікапольшчы.

Слабая надзея пераадолець навалу засвяціла Гадунову, калі пасланыя на чале з Васілём Іванавічам Шуйскім і выхадцам з Літвы прапраўнукам Івана III Фёдарам Іванавічам Мсціслаўскім супраць расстрыгі войскі пад Дабрынічамі разграмілі самазванца.

Нялёгка далася тая перамога. Хітрэнны Грышка абрадзіў коней свайго войска ў мядзведжыя і ў авечыя шкуры поўсцю наверх. Іншым коням па абодва бакі прымацавалі косы, ад якіх гінула не менш людзей, чым пад ударамі шабель. Коні маскавітаў кідаліся ўбакі, не слухаліся самых вострых шпор. І ўсё ж маскавіты пад Дабрынічамі перамаглі.

Самога Грышку нават захапілі ў палон і прывезлі ў горад Рыльск, адкуль самазванец сумеў уцячы ў Пуціўль, дзе зноў сабраў вялікае войска і падступіў да самае Масквы. Цар Барыс страціў апошнюю надзею. Князі і баяры здраджвалі, перакідваючыся на бок самазванца. Спадманутыя імі просты люд пад іх уплывам забыў, што цар у галодныя гады выратаваў іх ад смерці, што зусім нядаўна яны богам кляліся яму ў вернасці і адданасці, хвалілі "за мудрый государственный ум и нищелюбие".

І тады Гадуноў "упоил себя смертоносным зельем" і памёр 13 красавіка 1605 г. Але крытычнае ўзважванне гэтай трагедыі дае падставу сцвярджаць, што Гадуноў быў атручаны нядобразычліўцамі, каб дагадзіць "сапраўднаму цару".

Усяго месяц з паловай цараваў і ягоны нашчадак Фёдар Барысавіч. Клятваў, што давалі маладому цару, ніхто не прытрымліваўся, іх захоўвалі столькі часу, "колькі галодны сабака захоўваў пост". Збег нават бліжэйшы ваявода Пётр Басманаў, якога некалі прыгрэў цар Барыс, шчодра адарыўшы золатам, срэбрам, землямі і сялянамі.

Горад за горадам здаваліся "цару" Грышку. Прыйшлі да князя Васіля Іванавіча Шуйскага. Прагнулі ведаць, усё ж Дзмітрыя ён пахаваў ці каго іншага. Дальнабачны Шуйскі, адчуўшы, што ёсць магчымасць самому ўзлезці на прастол, сказаў зусім адваротнае таму, што некалі даводзіў цару Барысу. Маўляў, царэвіч выратаваўся, замест яго быў забіты і пахаваны сын мясцовага свяшчэнніка Істоміна. Зараз надышоў час выратаванага богам сына Івана Грознага, сустракайце яго, адчыняйце вароты. А роду Гадуновых ганьба і праклён.

Словы князя, што маланка, працялі прыйшоўшых. Раз'юшаныя натоўпы простага люду маскоўскага, бы нацкаваныя сабакі, кінуліся ў Крэмль. Цар Фёдар не разгубіўся, адчуўшы свой апошні час. Схапіўшы шаблю, рубіўся са здраднікамі налева і направа.

Забіўшы цара, маскавіты задушылі і Марыю Рыгораўну, ягоную маці. Дачку Барыса Гадунова, прыгажуню Ксенію, адвезлі ў Новадзявочы манастыр.

Маскоўскі трон быў свабодны для новага ўладара. 20 чэрвеня 1605 г. белакаменная сталіца ўрачыстым звонам сустракала "великого государя царя и великого князя всея России" Дзмітрыя-Самазванца. Замежныя хронікі сцвярджаюць, што ў час, калі расстрыга ехаў па наплаўному масту праз раку Маскву ў Крэмль, падняўся такі вецер, узняўся такі пыл, што нельга было вачэй адкрыць, хоць дагэтуль было яснае, сонечнае надвор'е. Людзі спалохана хрысціліся.

Гараджан асабліва расчуліла ўвага маладога цара да "сваёй" маці. Царыца выдатна справілася з роллю маці, якая нарэшце сустрэлася з цудам выратаваным ад кіпцюроў Гадунова "сынам". Ні слязою, ні дрыжачым голасам яна не выказала недаверу да чужога ёй чалавека. Ва ўсім Марфа Фёдараўна патрафляла Ілжэдзмітрыю.

Новы "цар" адразу ж паказаў сябе жорсткім і помслівым. Па яго загаду цела Барыса Гадунова выкінулі з Архангельскага сабора. "Цар" акружыў сябе моцнай стражай, на чале якой паставіў трох чужаземных ваявод. Гэта было бадай што найпершым, што выклікала незадавальненне маскавітаў. І ўжо зусім пасеяла недавер яго жаданне ажаніцца не на дзяўчыне рускай крыві, а на Марыне Мнішак — прыйшоў час выконваць дадзеныя ў Польшчы абяцанкі.

Шлюб "цара", які нарэшце ўсеўся на трон продкаў, зладзіў сам Жыгімонт III, узрадаваны ажыццяўленнем задуманых планаў.

"Цар" наладзіў пышную сустрэчу сваёй нарачонай. Для гэтага было вылучана як не сто тысяч вершнікаў, выслана багатая карэта, унутранае абранне якой было зроблена з залатой парчы, аздобленай жэмчугам.

12 мая 1606 г. авантурыстка прыбыла ў Маскву. Народ знямела, насцярожана паглядаў на чужынку. Пры ўездзе картэжа ў Крэмль падняўся такі ж самы, як і пры прыбыцці самазванца, страшэнны сілы віхор, у якім

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## СЛУЖЫЦЕ, ХЛОПЦЫ, ЛЕПШ ДОМА

*"Ці можна служыць па кантракту ў Таджыкістане?*

**С.А., г.Мінск."**

У Міністэрстве абароны Беларусі, прама скажам, здзівіліся такому пытанню, бо жадаючых служыць у гарачых кропках ніколі не было.

Служыць па кантракту ў Таджыкістане можна. Для гэтага патрэбна праз Міністэрства замежных спраў звярнуцца з заявай у Генеральны штаб Расіі. Адкуль прыйдзе адказ і ўсе ўстаноўкі. Але на Беларусі з гэтага моманту, жадаючы служыць у іншай краіне, будзе лічыцца наёмнікам і аўтаматычна пазбавіцца грамадзянства. Нават у тым выпадку, калі ён пайшоў служыць па кантракту ў іншую краіну пасля тэрміновай службы на Беларусі.

Калі ж наёмнік (будзем казаць так) вернецца на радзіму, то толькі пасля сямі гадоў, па існуючаму закону, верне грамадзянства.

Але лепш не выпрабоўваць свой лёс, а прыйсці ў Міністэрства абароны і самому выбраць любую кропку Беларусі для службы па кантракту.

## "СПІС ШЫНДЛЕРА". РОЗНЫЯ МЕРКАВАННІ

*Зараз у Мінску пачаўся паказ кінастужкі, якая ўзяла сем Оскараў — "Спіс Шындлера". Чуў, што карціна забаронена ў некаторых краінах. З чым гэта звязана?*

**І.Злотнікава, г.Мінск".**

Фільм "Спіс Шындлера" аб выратаванні больш тысячы яўрэяў прадпрымальнікам і членам нацысцкай партыі Оскарам Шындлерам, зняты Сцівенам Спілбергам па кнізе Томаса Кенелі, крытыкамі і асабліва палітыкамі ўспрыняты неаднназначна. Ён лідыруе па касавасці ў Германіі, Аўстрыі, Італіі, Японіі і краінах Лацінскай Амерыкі, добра ідзе ў Польшчы, дзе адбываюцца яго дзеянні, але забаронены ў многіх арабскіх і мусульманскіх краінах. На Блізкім Усходзе "Спіс Шындлера" хутчэй за ўсё, убачаць толькі ў Ізраілі. На думку Спілберга, за забаронай у большасці выпадкаў стаіць антысемітызм, аднак афіцыйна іх прычынай звычайна называецца прысутнасць на экране сцэн насілля, сексу і аголенага цела. "Не выкіну ніводнага кадра,— адказваў рэжысёр на ўсе прапановы прывесці карціну ў адпаведнасць з патрабаваннямі нацыянальнай цэнзуры.— Няма нічога больш непрыстойнага, чым тыя падзеі, якія адбываліся ў перыяд паміж 1933 і 1945 гадамі".

## ПАДАЗРОНАЯ Ў НАС КВАТЭРА

*"Чытаў, што для здароўя вельмі шкодныя вырабы, якія ўтрымліваюць азбест, — шыфер, сцянныя панелі, трубы. Так гэта, ці не?*

**К.КРАСНОЎ, Брэсцкі раён."**

Вядома, што азбест у чыстым выглядзе мае канцэрагенныя ўласцівасці, можа назапашвацца ў арганізме і правакуе ўтварэнне пухлін. Гэта здараецца, напрыклад, у час здабычы і перапрацоўкі азбесту пры тэхналагічных парушэннях. Што датычыць выкарыстання азбестаўтрымліваючых матэрыялаў і вырабаў, то навукоўцы прыйшлі да высновы, што яны не ўяўляюць бяспекі для здароўя. Азбест у іх знаходзіцца ў звязаным выглядзе, а паверхні гэтых вырабаў пакрываюцца фарбай, абліцовачнымі пліткамі і г.д. З гэтай прычыны выкарыстанне іх дапушчальна. У той жа час не дазваляецца выкарыстанне азбестаўтрымліваючых матэрыялаў для збудавання вентыляцыйных сістэм.

## НЕ ШЫЙ МНЕ, МАТУЛЯ, ЧЫРВОНЫ САРАФАН

*"Раскажыце, калі ласка, чаму на вяселлі галоўная дзеючая асоба, цэнтр агульнай увагі — нявеста, а не жаніх? І чаму на ёй белая сукенка? А навошта вэлюм?*

**М.Герасімава, Дзяржынскі раён."**

У даўніну кожны чалавек быў членам пэўнага роду. Дзеці належалі роду бацькоў, а вось дачка — дзяўчына, выходзячы замуж, пераходзіла ў род мужа (менавіта з гэтай прычыны замуж "выходзіць" — у сэнсе выходзіць са свайго роду, пакідае яго). Дзяўчына павінна была "памерці" ў ранейшым родзе і зноў "нарадзіцца" ў іншым, ужо замужняй жанчынай.

Зараз, зразумела, чаму жаніх стараецца ўнесці нявесту праз парог свайго дома абавязкова на руках: бо парог — мяжа светаў, а нявесце, раней "чужой" у гэтым свеце, належыць пераўтварыцца ў "сваю".

А што белая сукенка? Час ад часу прыходзілася чуць, што яна сімвалізуе "чысціню і сарамлівасць" нявесты, але гэта не так. На самай справе белы колер — колер жалобы. Чорны ў гэтай якасці з'явіўся ў параўнанні нядаўна.

Белы ж, як пішуць навукоўцы-гісторыкі і псіхолагі, са старадаўніх часоў быў для чалавецтва колерам Мінулага, колерам Памяці і Забвення. Такое ж значэнне прыдавалі яму і на Русі.

Другім "жалобна-вясельным" колерам быў...чырвоны. Яго здаўна ўключалі ў адзенне нявесты. Ёсць нават песня:"Не шей ты мне, матушка, красный сарафан",— песня дачкі, якая не хоча ісці з роднага дому да чужых людзей — замуж.

Зараз пра вэлюм. Яшчэ зусім нядаўна гэта слова азначала проста "хустка". Не сучасная празрыстая кісея, а сапраўдная тоўстая хустка, якой закрывалі нявесце твар. Бо з моманту згоды на шлюб яе лічылі "памёршай". Вось і нельга было нікому нявесту бачыць, а парушэнне забароны вяло да ўсемагчымых няшчасцяў і нават да заўчаснай смерці.



## ВЫБАРЫ Ў БАВАРЫІ

*У Баварыі адбыўся чарговы тур выбараў.*

Большасць галасоў атрымала хрысціянская партыя — 52,8%, за ёй ідзе сацыялістычная партыя Германіі — 30%. Вельмі мала набрала галасоў свободная партыя Германіі (2,8%), якую апярэдзіла нават партыя рэспубліканцаў (3,9%).

## РЭЛІГІЙНЫ ФАНАТЫЗМ

*У Егіпце невядомымі асобамі быў учынены замах на жыццё мірных грамадзян.*

Аўтамабіль, у якім яны знаходзіліся, быў абстраляны. Загінула 3 чалавекі, з іх 1 нямецкі турыст і 2 жыхары Егіпта, а таксама паранены 3 пешаходы. Паводле звестак службаў бяспекі, злачынства было ўчынена мусульманскімі рэлігійнымі фанатыкамі.

## ПА НОВАМУ КРУГУ

*Дзяржаўны суд Іспаніі разгледзеў чарговую справу, звязаную з гандлем наркотыкамі.*

Па абвінавачванню ў кантрабандзе арыштаваны 51 чалавек, 17 з іх атрымалі турэмнае зняволенне. Многія арыштаваныя ўжо не першы раз трапляюць на лаву падсудных.

## ЗАБОЙСТВА Ў МЕХІКА

*Днямі ў цэнтры горада Мехіка на вуліцы быў забіты генеральны сакратар урадавай партыі Мексікі.*

Паводле звестак паліцыі, затрыманы забойца — наркаман. Злачынства расследуецца.

## ЛАВІЦЬ ЦІ НЕ ЛАВІЦЬ?

*На пасяджэнні камісіі Еўрапейскага супольніцтва ў чарговы раз адкладзены разгляд пытання аб забароне лоўлі рыбы сеткамі.*

За гэты спосаб лоўлі выступаюць Францыя, Вялікабрытанія і Ірландыя. З імі не згодны Грэцыя і Іспанія, бо лічаць такую лоўлю браканьерствам.

## МУЗА НЕ ЎЖЫЛАСЯ З ПАЛІТЫКАЙ

*Міністр замежных спраў Бельгіі вылучаны на пасаду генеральнага сакратара НАТО.*

55-гадовы сацыяліст набыў рэпутацыю чалавека бескампраміснага і рэалістычнага. Акрамя гэтага, ён вядомы яшчэ і як таленавіты музыкант, які доўгі час іграў у дзяржаўным аркестры.

## КАХАННЕ І НЯНАВІСЦЬ

*Брытанская паліцыя спадзяецца дапрасіць цёмнаскурага мужчыну, які быў збіты да паўсмерці, а потым падпалены двума белымі на полі для гольфа ў гарадскім парку графства Кент.*

Прадстаўнік дэпартамента паліцыі заявіў, што прычына расправы — расавая помста. Як аказалася, пацярпеўшы быў блізка знаёмы з белай жанчынай.

## НАВУКА СТАНЕ МАРАЛЬНАЙ

*У Боне створаны новы навукова-даследчы інстытут — этыкі навукі.*

Ён будзе займацца маральнымі праблемамі, звязанымі з навуковымі даследаваннямі і прымяненнем іх вынікаў. Шкада, што вывады вучоных будуць толькі рэкамендацыямі і парадамі. Як адзначылі стваральнікі інстытута, іх ажыццяўленне ў жыццё — ужо справа палітыкаў.

9 X 12

# Вадзім, які марыць пра Папялушку

*Як лічыць сам Вадзім Казачэнка, праблем з паклонніцамі ў яго няма. У тым простым сэнсе, што "з-за яго" ніхто не выкідваўся з акна, не рэзаў сабе вены і не спрабаваў атручвацца. Аднак палічыць адсутнасць гэтых праблем адсутнасцю саміх паклонніц было б зусім няправільным. Бо ўсё ж такі дзяўчынак, якія з захапленнем слухаюць Вадзіма, уяўляючы кожная сябе яго Папялушкай, "якая вырасце казкаю", больш, чым дастаткова..*

**– Памятаю, Вадзім, у тэлешоу "50 х 50" табе даслала пісьмо адна дзяўчына, з якой потым, па розных чутках, у вас склаліся вельмі цёплыя адносіны...**

— Так, сапраўды, гэта было некалькі гадоў таму. Дзяўчыну гэтую завуць Таня, яна з Данецкай вобласці. Таня даслала мне пісьмо і перамагла ў конкурсе "На лепшы ліст свайму любімаму спеваку". Дарэчы, наконт цёплых адносін (смяецца). Мы сапраўды рэгулярна з ёй сустракаемся. Яна вучылася ў металургічным тэхнікуме, потым кінула яго і паступіла ў музычнае вучылішча. Не ведаю, але яна сцвярджае, што прыняла такое рашэнне, дзякуючы мне. Я ўжо сказаў, што мы сустракаемся з Таняй, але, праўда, на спатканні яна заўсёды прыходзіць з мамай...

**– Вадзім, вядома, што твае карані бяруць пачатак на Украіне.**

— Я нарадзіўся 13 ліпеня 1963 года ў Палтаве. І ўсё сваё жыццё я пражыў там. Там пачаў займацца сваёй любімай справай — спяваць песні. А паўтара года таму ў мяне з'явілася маскоўская прапіска. Як бы там ні казалі, але да сённяшняга дня Масква — цэнтр, адкуль ідзе ўся інфармацыя, культура, эстрада. Ці лічу я сябе масквічом? Не ведаю.

**– Ты сказаў, што нарадзіўся 13 ліпеня. Ці ёсць у цябе на гэты конт нейкія прымхі?**

— Прымхаў няма. Але гэты дзень для мяне заўсёды сумны. Магчыма, таму, што адчуваеш як хутка ляцяць гады. Я добра памятаю дзень нараджэння ў 1968 годзе, калі мне было 5 гадоў. Тады я ўпершыню ўбачыў свайго бацьку. У другі раз я сустрэўся з ім, калі мне было ўжо 27.

**– Раскажы, калі ласка, пра перыяд "Фрыстайла" ў тваім жыцці. Мне здаецца, менавіта гэты перыяд зрабіў цябе "зоркай"?**

— Магчыма, ты маеш рацыю. З 1983 года я пачаў займацца музыкай. Да "Фрыстайла" я працаваў на танцавальнай пляцоўцы. Дарэчы, "Фрыстайл" стварыўся як жаночая група, у якую ўваходзілі ў асноўным палтаўскія музыканты. Першая назва будучага "Фрыстайла" — "Алімпія". Потым група называлася "Фестываль". Ну, а перыяд "Фрыстайла" сапраўды самы значны, але ў групе пайшоў разлад і я вырашыў пайсці "на вольныя хлябы". Так, у снежні 1991 года я развітаўся з "Фрыстайлам".

**– А чаму ты не спяваеш песень на ўкраінскай мове?**

— У мяне ў рэпертуары няма ніводнай песні на ўкраінскай мове. Як бы там ні казалі, але сёння ў нашых СНД-эўскіх краінах параненйшаму найбольш папулярнымі застаюцца песні на рускай мове. Выключэннем сталі толькі "Песняры", песні якіх на беларускай мове ведаюць і спяваюць паўсюль.

**– Вадзім, ты напэўна, ведаеш, што за песню "Больно мне, больно..." цябе называлі мазахістам?**

— Канешне, ведаю. Але мне здаецца, гэта штосьці з народных прыколаў. Так з любой песні можна "вырваць словы". Аднак наконт мазахізму мяне пытаюцца нават у запісках з залы, дзе праходзяць выступленні.

**– Вадзім, а ці праўда, што ты – чалавек вельмі закамплексаваны. І галоўны твой комплекс – комплекс чалавека з правінцыі, якога, на жаль, не пазбаўлены амаль усе правінцыялы?**

— У маскоўскай музычнай тусоўцы, якая лічыць сябе багемнай, у мяне былі сутычкі якраз з-за таго, што мяне, правінцыяла, не прымалі. Гэта былі сутычкі не з артыстамі, а з іх адміністратарамі, дырэктарамі. Што тычыцца маёй закамплексаванасці, то яна, хутчэй за ўсё праяўляецца ў маім "невыпячванні".

**– Ну, а наконт асабістага жыцця. Прабач, але закамплексаваныя правінцыялы такія нецікавыя ў гэтым...**

— Я разведзены. Мая былая жонка і дзевяцігадовая дачка Марыяна жывуць у Палтаве. Бачу я іх толькі, калі бываю там. А наконт асабістага жыцця, мне здаецца, усё ў парадку.

**– Ці ёсць у цябе жаданне мяняць свой стыль з улікам часу?**

— У сваёй працы я заўсёды буду арыентавацца на свайго слухача. І калі яму захочацца, каб я змяніўся,n я паспрабую зрабіць гэта.

**– Ці лічыш ты свой рэпертуар арганічным табе?**

— Я выконваю песні розных гадоў і мне здаецца, што ўсе яны мне вельмі арганічныя.

**– Як у такім разе нараджаецца твой рэпертуар?**

— Па-рознаму. Бывае адразу прапануюць гатовую песню. Ёсць выпадкі, калі прыносяць толькі тэкст ці наадварот мелодыю і трэба шукаць кампазітара і аўтара вершаў.

**– Хто займаецца тваім іміджам?**

— Мой дырэктар Уладзімір Мальцаў.

**– Як ты адносішся да скандальнасці? Ці дапамагае яна?**

— Магчыма, і дапамагае, але я не імкнуся да скандальнасці, бо ў ёй ёсць і адваротны бок.

**– Вадзім, ты сказаў, што пакінуў "Фрыстайл" таму, што ў ім назрэў канфлікт. Цікава, якая ж прырода такіх канфліктаў на эстрадзе – матэрыяльная ці творчая?**

— У большай ступені, канешне, матэрыяльная. Былі, безумоўна, і творчыя непаразуменні, але... Калі справа тычыцца грошай,то нават самыя лепшыя сябры могуць стаць ворагамі.

**– Якія ўласныя якасці табе падабаюцца, а якія не? І ўвогуле, што табе падабаецца?**

— Не падабаецца мая катэгарычнасць, безапеляцыйнасць, а падабаецца ўменне захаваць спакой нават у самай складанай сітуацыі. А ўвогуле мне падабаюцца даўганогія прыгожыя дзяўчаты і абавязкова бландзінкі.

**Гутарыла Майя ШЭНДРЫК.**

СПОРТ

*У Мінску, у спартыўным комплексе "Працоўныя рэзервы", прайшоў Кубак Рэспублікі Беларусь па спартыўнай гімнастыцы. У ім прымалі ўдзел мацнейшыя гімнасты краіны. Пераможцам у мужчын стаў чэмпіён свету і Еўропы 1994 года Іван Іванкоў.*

*Гэта апошні афіцыяльны старт нашых спартсменаў перад маючым адбыцца ў лістападзе ў Дортмундзе чэмпіянатам свету.*

ІНФА-КРЫМ

## Спрэчка паводле... Астапа Бэндара

У апошні час прыдумана дастаткова варыянтаў падзарабіць. Між іншым, не апошняе месца займае... спрэчка.

У даволі наведвальным і папулярным месцы — кінатэатры "Кастрычнік", дзе амаль штодзённа праводзяць дыскатэкі (ці як іх яшчэ называюць — інфармацыйна-пацяшальныя праграмы), малады чалавек ва ўзросце 23 год паспрачаўся з дзвюма студэнткамі Беларускай політэхнічнай акадэміі. Маўляў, яны, нягледзячы на сваю перакананасць у гэтым, не з 74-га года нараджэння. Мілыя дзяўчаткі, відаць, прыхільніцы вострых пачуццяў, вырашылі пазабавіцца і нядрэнна пажывіцца і з задавальненнем прынялі ўмову спрэчкі — 20 даляраў кожнай, калі тыя прад'явяць пашпарты.

Пашпарт быў прад'яўлены, але спрэчка — прайграна...

Юрачка растлумачыў, што яны не з 74-га года, а з 1974-га.

Не дапамаглі ні прывабная знешнасць, ні добры стан, ні доўгія ногі. Даляраў дзяўчаты не мелі і таму вымушаны былі, як прапанаваў калісьці Астап Бэндар "знесці на гэтую суму што-небудзь з дому".

Чым усё гэта скончылася — невядома. Застаецца толькі здагадвацца, як добра можа падзарабіць Юра, калі яго не спыняць якія-небудзь органы, ці такія ж "прадпрымальнікі", як ён сам...

**Вольга КАСЦЮКЕВІЧ.**

*з гісторыі Беларусі*

# ЗМОВА

і пры прыбыцці самазванца, страшэнным сілы віхор, у якім людзі ўбачылі дрэнны знак, нябесную перасцярогу, якая сапраўды спраўдзілася. Народ выказаў непрыхільнасць да "цара", які "привез себе из Литовской земли невесту, люторской веры девку", нябесны знак толькі ўмацаваў іх незадаволенасць.

Недавер народа рос з дня ў дзень. Асабліва нясцерпнымі былі здзекі палякаў над праваслаўнай верай рускіх. Бязладдзе ў дзяржаве напаліла абстаноўку, падзяліла народ на варожыя лагеры.

Пэўная частка радавітай маскоўскай знаці хацела ўзвесці на прастол баярына Васіля Іванавіча Шуйскага, вядомага ў Маскве багацея. На карысць Шуйскага іграла і падтрымка братоў — Дзмітрыя і Івана— ваяводаў маскоўскіх. Старэйшы Шуйскі патаемна, ноччу, сабраў на сваім падворку вядомых яму баяр і купцоў, сотнікаў і пяцідзесятнікаў стралецкіх палкоў. Дамовіўшыся аб рашучых дзеяннях у вызначаны час, змоўшчыкі разышліся.

І вось царскае вяселле, каранацыя новай царыцы. Перад вянцом Марына заўпарцілася. Ні ў якую не хацела апранацца ў маскоўскія строі. Нарэшце згадзілася, апранула пададзеныя багатыя, шытыя золатам адзежыны, стала пад вянец у царкве Святой Мары і была каранавана царыцай "Всея Руси".

На другі ж дзень Грышка загадаў прынесці "царыцы" польскае адзенне, што выклікала яшчэ адно незадавальненне рускіх. І раптам звон. Набатны, на ўсю Маскву. На яго адгукнуліся званы ўсіх трох тысяч сталічных цэркваў. Яны будзілі маскавітаў, клікалі, узбройвалі, вялі. Сотні тысяч маскавітаў рынуліся ў Крэмль. Грышка, пачуўшы магутны ўсемаскоўскі звон, схапіўшы шаблю, скочыў у акно. Пашкодзіў нагу і адразу трапіў у рукі маскавітаў, якія даставілі ўцекача да Шуйскага. Той разам з баярамі ўчыніў "цару" допыт, абвінавачваючы ў самазванстве. Расстрыга паспрабаваў абараняцца, параіў схадзіць да "маці", спадзеючыся, што яна выкажа пераканаўчыя сведчанні. Але Марфа Фёдараўна адказала, што яна не ягоная маці і ніколі не нараджала на свет іншага сына, акрамя Дзмітрыя..."

Даведаўшыся аб сутнасці размовы Шуйскага з Марфай Фёдараўнай, баяры выхапілі шаблі і кінуліся на самазванца. Удар Міхаіла Тацішчава быў смяротным.

"Царыцу" знайшлі не адразу. Маленькага росту, адпавядаючага прозвішчу Мнішак, яна схавалася пад шырокую сукенку старой і тоўстай фрэйліны, што выратавала яе.

Праз два дні пасля забойства Ілжэдзмітрыя здарыўся на Маскоўскай зямлі страшэнны, нябачны ў маі снегапад і мароз. Загінула ў палях ярына, павымярзалі сады. Гэтая навалач з'явілася жудасным прадвесцем новых выпрабаванняў для Русі.

Спаліўшы Грышку і выстраліўшы ягоны прах з гарматы, баяры сабраліся на Лобным месцы Краснай плошчы і "прокричали" царом Васіля Іванавіча Шуйскага. Склікаць Земскі сабор для ўсенароднага абрання манарха крыкуны збаяліся, спадзеючыся вяршыць усе справы дзяржавы пры "слабым" Шуйскім.

Польскі кароль, даведаўшыся аб забойстве самазванца, не дужа гараваў. Ідэя з выратаваным царэвічам яшчэ зусім не абанкруцілася. Пакаёвы Ілжэдзмітрыя Хвалібог, найбольш аўтарытэтны сведка, бажыўся, што "гасудар" выратаваўся.

Між тым ваявода Сандамірскі ў згодзе з іншай шляхтай знайшоў новага кандыдата на ролю Ілжэдзмітрыя. Па сведчанню замежнага найміта на рускай службе Бусава, гэта быў настаўнік са Шклова, які добра валодаў польскай і рускай мовамі. Гісторык С.М.Салаўёў прыводзіць вытрымку з "аднаго беларускага летапісу", праўда, без назвы: "Того же року 1607 месяца мая после самое суботы и шол со Шклова из Могилева на Попову Гору якийсь Дмитр Иванович, менил себе быти царем московским. Тот Дмитр Нагий был не первый у попа, Шкловского именем, дети грамоте учил, школу держал, также у священника Федора Сазановича Никольского у села дети ўчил, а сам оный Дмитр Нагий имел господу в Могилеве у Терешка, который проскуры заведал при церкви св.Николы, и прихаживал до того Терешка час не малый, каждому забегаючи, послугуючи, и имел на себе кожух бараний, в лете в том ходил".

Упершыню другі Дзмітрый адкрыў сябе ў Прапойску, быў схоплены, і на допыце спачатку назваў сябе Андрэем Андрэевічам Нагім, родзічам царэвіча Дзмітрыя. Адпушчаны, ён разам з паплечнікамі апынуўся ў мястэчку Старадуб, жыхары якога не надта верылі ягоным байкам. Аднойчы старадубцы нават сталі паграджаць "царэвічу" катаваннем. Раззлаваны недаверам самазванец прыкрыкнуў на іх: "Ах вы б...дзеці, яшчэ вы мяне не ведаеце. Я гаспадар!"

Вакол беларускага самазванца пачалі гуртавацца войскі. Са сваімі дружынамі да яго прысталі Мехавецкі з Польшчы і Будзіла з Літвы, харунжы мазырскі.

Каб выкрыць чуткі, Шуйскі загадаў выкапаць рэшткі царэвіча Дзмітрыя і перазахаваць у Маскве. Але пасля семнаццаці гадоў перахоўваць не было чаго. І тады забілі нявіннага хлапчука, апранулі ў царскія адзежыны і выставілі людзям на пакланенне.

З гонарам і пашанай былі перазахаваны таксама зняважаныя самазванцам целы Барыса Гадунова, цара Фёдара Барысавіча і яго жонкі. Выкліканая з манастыра Ксенія горка аплаквала бацьку, маці і брата.

Нягледзячы на ґэтыя захады, чуткі аб выратаванні "цара" Дзмітрыя распаўсюджваліся ўсё шырэй. У 1608 г. Ілжэдзмітрый стаў лагерам у Тушыне, непадалёку ад Масквы. Неўзабаве супраць Шуйскага выспеў мяцеж. Баяры звярнуліся да цара з патрабаваннем адмовіцца ад прастола.

Цар зняў з галавы шапку Манамаха і кінуў у роспачы царскі кій на зямлю. Па твары пацяклі слёзы прыкрасці і болю.

На той час мяцеж удалося сцішыць, утаймаваць баяр, але месніцтва, зайздрасць, цяга да ўлады працягвалі тачыць іх душы.

Уладальныя дамы Еўропы з цікавасцю і занепакоенасцю сачылі за разгортваннем падзей у Расіі, не ведаючы да канца ў іх ролі караля Польшчы.

Ян Сапега між тым выхваляўся:"Мы, палякі, тры гады таму назад пасадзілі на маскоўскі трон гасудара, які павінен быў называцца Дзмітрыем, сынам тырана, нягледзячы на тое, што ён ім не быў. Цяпер мы другі раз прывялі сюды гасудара і завявалі амаль палавіну краіны, і ён павінен будзе называцца Дзмітрыем, нават калі рускія ад гэтага страцяць розум. "Нашымі сіламі і нашай узбройнай рукой мы зробім гэта".

Швецыя, гледзячы, як Расія коціцца ў бездань, і баючыся ўмацавання Польшчы ў выпадку здзяйснення планаў Жыгімонта III, папярэджвала і прапаноўвала сваю дапамогу Шуйскаму. Але цар адмовіўся.

Зрабіў Шуйскі і яшчэ адну значную памылку: адпусціў Марыну Мнішак, яе бацьку і іх прыбліжаных асоб пад чэснае слова ў Польшчу. Аб гэтым даведаўся Ілжэдзмітрый. Ён перахапіў царыцу і разам з яе карэтай прывёз у свой Тушынскі двор. "Царыца" ўзрадавалася "мужу", кінулася ў абдымкі, чым расчуліла "царова" акружэнне. Усе нібыта аслеплі і страцілі розум, паверыўшы зноў у грубую камедыю, кінуўшы сваё жыццё пад ногі прайдзісветам.

Прысутнасць "царыцы" ўмацавала становішча самазванца. Значная падмога прыйшла і з Польшчы.

Справы Шуйскага ўскладніліся. Цар прыняў рашэнне паслаць у Швецыю за падмогай свайго пляменніка Міхаіла Скопіна-Шуйскага.

У канцы 1609 г. у Расію ўварваўся сам Жыгімонт III, прывёўшы з сабою каля 20 тысяч ваяроў. У Мінску кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт сустрэўся з каронным гетманам Станіславам Жалкееўскім, які распытваў яго вялікасць, ці ўпэўнены ён у здзяйсненні задуманага. Кароль адказваў ухіліста.

Неўзабаве Жыгімонт пакінуў Мінск. У Оршы ён злучыўся з войскамі. Аб'яднанымі сіламі яны асадзілі Смаленск.

На дапамогу рускім Міхаіл Скопін-Шуйскі прывёў з Швецыі войска на чале з Горнам і Дэлагардзі. Разам з рускімі яны разбілі палякаў пад Тушынам. У гэтым змаганні з найбольшай сілай праявіўся выдатны ваенны талент Міхаіла Скопіна-Шуйскага, войскі якога 12 сакавіка 1610г. вызвалілі Маскву . Папулярнасць палкаводца вырасла настолькі, што многія маскавіты заклікалі яго на царства. Але дваццацітрохгадовы князь рашуча адмовіўся. Прыхільнасць простых людзей і часткі дваранства да Скопіна-Шуйскага напалохала дзядзьку. Бачыў у ім свайго саперніка і Дзмітрый Шуйскі, які спадзяваўся сесці на трон пасля смерці бяздзетнага брата. На піры жонка Дзмітрыя Екацярына з зайздрасці паднесла яму заламтую чару са смяротным пітвом. Даверлівы да родзічаў Міхаіл выпіў яе. З носа пайшла кроў, вечарам ён скончыўся. Расія страціла ў Скопіне-Шуйскім таленавітага і мужнага палкаводца. Але каварная згуба толькі паскорыла падзенне цара Васіля.

Сабраўшыся з сіламі, палякі на чале са Станіславам Жалкееўскім зноў пачалі пагражаць Маскве. Насустрач ім цар паслаў свайго брата Дзмітрыя, пыхлівага, але бяздарнага ваяводу, які не змог супрацьстаяць палякам і пад вёскай Клушына, што непадалёку ад Мажайска, рускія войскі былі разбіты. Здавалася, гэта спрыяла ажыццяўленню змовы. Але яна ў каторы раз выбівалася з-пад кантролю. Набывала новыя накірункі. Так з'явілася прапанова абраць на прастол каралевіча Уладзіслава, пятнаццацігадовага сына Жыгімонта III. Падзяляючы планы польскага караля, баяры наладзілі ў Варшаве паўнамоцнае пасольства. Выслухаўшы іх, асцярожны Жыгімонт нібыта сказаў:"Як мне вам верыць? У вас цар сядзіць на царстве, а вы просіце ў мяне майго сына на яго месца. Калі прывядзеце да мяне цара з братамі, то я дам вам майго сына". Сам жа не дужа хацеў гэтага, дамагаючыся прастола для сябе асабіста.

Баяры так і зрабілі. Яны звярнуліся з Лобнага месца Краснай плошчы да люду маскоўскага. Маскавіты падтрымалі іх. Усім натоўпам людзі рушылі да Крамля, дзе адабралі ў цара Васіля карону і скіпетр, садралі парчовае адзенне і 17 ліпеня 1610 г. пастрыглі ў манахі, затачыўшы ў Чудаў манастыр.

Пачалося яшчэ большае бязладдзе. Адны хацелі аб'ядначца з Польшчай, другія супрацьстаялі польскай інтэрвенцыі. Масква прысягнула Уладзіславу. Ілжэдзмітрый жа збег у Калугу, дзе 11 снежня 1610 г. быў засечаны начальнікам сваёй аховы татарскім князем Урусавым. Змова набыла яшчэ адзін ухіл. Казакі былі гатовыя біцца да канца за ўзвядзенне на расійскі трон сына Марыны Мнішак і Ілжэдзмітрыя II "царэвіча" Івана. Пасля яго нараджэння ў 1611 г. верныя самазванцу хаўруснікі ўзялі хлапчука са згоды маці на захаванне, спадзеючыся з часам абвясціць яго царом. Але гэтай задуме не давялося споўніцца. У 1614 г. пасля захопу замежнай шукальніцы прыгод і яе новага авантурнага мужа Заруцкага "царэвіч" Іван ("воренок") быў выдадзены баярскай думе і павешаны.

Смута ў расійскай дзяржаве працягвалася. Каб выказаць сваю адданасць каралю, баяры аддалі палякам самога звергнутага цара, Васіля Шуйскага, ягоных братоў і прыбліжаных. Гэта ўжо было нешта. Жыгімонт задумаўся.

Перасцярогі, настойлівыя, удумлівыя парады аб мэтазгоднасці ўзвядзення на расійскі прастол каралевіча і дасягненні праз гэты акт тых жа мэтаў, што дамагаўся Жыгімонт, толькі з улікам прыняцця каралевічам праваслаўя, ігнараваліся. Час ішоў, каралевіч у Маскву не ехаў, у Расіі набірала сілу незадаволенасць. Народ патрабаваў дакладнасці, ці прыедзе, нарэшце, закліканы на трон польскі каралевіч, ці для такой нявесты, як Расія, знойдуць другога жаніха.

У 1617 г. узмужнелы каралевіч з войскам падступіў да самай Масквы, узгадаўшы колішняе запрашэнне на расійскі прастол. Але момант быў упушчаны. Фартуна перамянілася. Земскі сабор выбраў і павянчаў на царства Раманава Міхаіла Фёдаравіча. Уладзіслаў атрымаў ад варот паварот. Каралевіча, нават даволі моцна, пабілі тыя, хто нядаўна прысягнуў на плошчы нашчадку польскага трона. Каранацыя Міхаіла Раманава была крыху азмрочана весткамі, што на чужыне, пасля некалькіх месяцаў няволі, у 1612 г. у Гастынскім палацы памёр Васіль Шуйскі, брат Дзмітрый і яго жонка. Прычыны іх смерці дакладна не высветлены. Чуткі хадзілі розныя. Па норавах таго часу нельга выключаць і атручванне. Вельмі выглядае загадкавай і смерць трох вязняў адразу ў верасні—лістападзе.

Палякам давялося заключаць на 14 гадоў перамір'е. І хоць да Рэчы Паспалітай адышло Смаленскае княства, Жыгімонт, а найбольш ягоныя прыбліжаныя, вымушаны былі прызнаць, што планы іх аказаліся бітыя. "Смута", ці, як азначалі сучаснікі, "літоўскае разбурэнне" Расіі, адышлі ў нябыт. Каралі, цары, імператары, правадыры па-рознаму перакройвалі "плацце" Расіі, Польшчы і Беларусі, пасвойму ўяўляючы лёс народаў. А гісторыя, даўшы двум рускім, палякам, беларусам у пачатку XYII стагоддзя рэдкія магчымасці еднасці, новых такіх шанцаў пакуль не дае: гневаецца, абураецца, крыўдзіцца? Вымушае нас саміх гартаваць свае лёсы?

